Гродна
№13 (495),
24 чэрвеня 2018
www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# СЛУЖЭННЕ ПІЛІГРЫМУЮЧАМУ БОЖАМУ ЛЮДУ



**АЙЦОЎ ПАЎЛІНАЎ МОЖНА ПАЗНАЦЬ ПА БЕЛЫМ ХАБІЦЕ, ЯКІ ЎКАЗВАЕ НА СУРОВАСЦЬ МАНАСКАГА ЖЫЦЦЯ, ПРЫСВЕЧАНАГА ПАНУ БОГУ. АЙЦЫ ВЯДУЦЬ ДУШПАСТЫРСКУЮ ДЗЕЙНАСЦЬ У АМЕРЫЦЫ, АЎСТРАЛІІ, АФРЫЦЫ, МНОГІХ КРАІНАХ ЕЎРОПЫ: ВЕНГРЫІ, ПОЛЬШЧЫ, ХАРВАТЫІ, УКРАІНЕ, ЛАТВІІ, СЛАВАКІІ, ЧЭХІІ, ГЕРМАНІІ, ФРАНЦЫІ, АНГЛІІ, ІСПАНІІ, РУМЫНІІ. З 1993 ГОДА ЯНЫ СЛУЖАЦЬ ТАКСАМА Ў БЕЛАРУСІ. НА ПРАЦЯГУ 25-ЦІ ГАДОЎ НЯСУЦЬ ПАСЛУГУ Ў ПАРАФІЯХ МАЦІ БОЖАЙ НЯСТОМНАЙ ДАПАМОГІ Ў КАРЭЛІЧАХ І СВ. ГАННЫ Ў ВАРОНЧЫ (ДЭКАНАТ НАВАГРУДАК).**

*працяг на с. 3*



# “Мадонны і не толькі”

Фотапраект пад такой назвай быў прэзентаваны ў горадзе над Нёманам. Калекцыя фотаздымкаў аўтарства Юрыя З. Касючэнкі паказвае археалогію відарыса Мадонны ў выглядзе сярэднявечнай скульптуры ў Еўропе і дэманструе, якім чынам марыйны культ знайшоў сваё выражэнне ў мастацтве.

*працяг на с. 4*

**“Кансэкраваныя асобы з’яўляюцца прароцтвам дзялення з самымі малымі і беднымі”. Папа Францішак**




### УРАЧЫСТАСЦЬ НАРАДЖЭННЯ СВ. ЯНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ

**Лк 1, 5–17**

У часы Ірада, караля юдэйскага, быў адзін святар па імені Захарыя, з роду Абія. Жонка ягоная была з роду Аарона; і было імя яе Альжбета. Абодва яны былі справядлівымі перад Богам, жывучы беззаганна паводле ўсіх запаведзяў і наказаў Пана. Але не мелі дзіцяці, бо Альжбета была бясплодная; былі яны ўжо ў старым узросце.

Калі Захарыя па вызначанай чарзе выконваў святарскае служэнне перад Богам, яму, паводле святарскага звычаю, выпаў лёс увайсці ў святыню Пана, каб кадзіць. Усё ж мноства народу малілася звонку падчас каджэння. І з'явіўся яму анёл Пана, які стаяў з правага боку кадзільнага ахвярніка. І збянтэжыўся Захарыя, калі ўбачыў яго, і страх ахапіў яго. Анёл жа сказаў яму: "Не бойся, Захарыя, бо выслухана просьба твая, і жонка твая Альжбета народзіць табе сына, і назавеш яго імем Ян. І будзе табе радасць і вяселле, і шмат хто ўзрадуецца нараджэнню ягонаму. Бо ён будзе вялікі ў вачах Пана, і не будзе піць ні віна, ні хмяльнога напою, і напоўніцца Святым Духам яшчэ ва ўлонні маці сваёй. І многіх з сыноў Ізраэля наверне да Пана Бога іхняга. І пойдзе перад Ім у духу і моцы Іллі, каб звярнуць сэрцы бацькоў да дзяцей, непаслухмяных да разважлівасці справядлівых, каб падрыхтаваць для Пана народ дасканалы".

### БЫЦЬ ГОЛАСАМ НАДЗЕІ

Ян Хрысціцель быў голасам, які прадвяшчаў прыход Месіі, голасам, што не засланяў сабой таго, што важнейшае – Слова, паколькі "трэба, каб Ён узрастаў, а я памяншаўся". Ян першым указаў сваім вучням, а разам з тым і тлумам, на Езуса як чаканага на працягу стагоддзяў Збаўцу свету.

Трэба, каб і мы былі такім голасам, што нясе жыватворнае Слова Езуса Хрыста, Добрую Навіну, надзею. Нават калі гэта будзе патрабаваць ад нас шмат намаганняў і перамогі над сабой, нават калі сустрэнемся з непрыязню ці варожасцю з боку натоўпаў і сучасных Ірадаў, што чакаюць, магчыма, іншага паслання, будзьма голасам самога Езуса! Дазвольма, каб Ён стаў зместам нашых слоў і нашага жыцця!

**Ці магу я "памяншацца", каб іншыя маглі ўзрастаць?**

**Ці слухаю голас Пана?**

### XIII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Мк 5, 21–24. 35b–43**

Калі Езус ізноў пераправіўся ў чаўне на другі бераг, сабралася да Яго мноства народу. А быў Ён каля мора. І вось прыходзіць адзін з кіраўнікоў сінагогі па імені Яір і, убачыўшы Яго, падае да Яговых ног і моцна просіць Яго, кажучы: "Дачушка мая паміpae, прыйдзі, ускладзі на яе рукі, каб яна выздаравела і жыла". І пайшоў з ім Езус. А вялікі натоўп ішоў за Ім, і цісніўся да Яго.

І прыходзяць ад кіраўніка сінагогі і кажуць: "Дачка твая памерла, чаго ты яшчэ турбуеш Настаўніка?". Але Езус, пачуўшы сказаныя словы, кажа кіраўніку сінагогі: "Не бойся, толькі вер!". І не дазволіў нікому ісці за сабою, апрача Пятра, Якуба і Яна, брата Якуба. І прыходзіць у дом кіраўніка сінагогі. І бачыць Ён мітусню, плач і вялікае галашэнне. І, увайшоўшы, кажа ім: "Чаго мітусіцеся і плачаце, дзіцё не памерла, але спіць". І смяяліся з Яго. Але Ён, выгнаўшы ўсіх, бярэ з сабою бацьку і маці дзіцяці і тых, хто быў з імі, і ўваходзіць туды, дзе было дзіцё. І, узяўшы дзіцё за руку, кажа ёй: "Таліта, кум!" – што значыць: "Дзяўчынка, табе кажу, устань!". І адразу ж устала дзяўчынка і пачала хадзіць. А было ёй дванаццаць гадоў. І замерлі ў вялікім здзіўленні. А Ён сурова загадаў ім, каб ніхто пра гэта не ведаў, і сказаў, каб далі ёй есці.

### БЫЦЬ ЧАЛАВЕКАМ ВЕРЫ

Бог, наш Айцец, не хоча для нас цярпення. Адзінае Яго жаданне – каб мы пасяліліся з Ім у Валадарстве жыцця і спакою, дзе няма ні цярпення, ні слёз, ні смерці. Аднак, каб так магло стацца, Ён чакае ад чалавека веры, хаця б такой маленькай, як гарчычнае зярнятка.

Сёння мы можам сустрэць Езуса і "дакрануцца" да Яго мноствам розных спосабаў. Перш за ўсё, праз удзел у Эўхарыстыі. Прымаючы св. Камунію, мы дакранаемся не да краю Хрыстовага плашча, а да самога Езуса! Адчуваем Яго аздараўленне ў целе і душы.

Прыходзьма да Усемагутнага з чыстай і вольнай верай, бо да кожнага з нас Ён скіроўвае словы: "Не бойся, толькі вер".

**Ці клапачуся я аб узрастанні сваёй веры?**

**Ці здольны даверыцца Богу ў любой жыццёвай сітуацыі?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# "Згараюць" для нас!

*Важную ролю ў жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выконвалі і надалей выконваюць манаскія супольнасці. Мы часта можам бачыць кансэкраваных асоб, паглыбленых у ціхую і засяроджаную малітву, якой прагнуць ахінуць кожнага чалавека, а асабліва грэшнікаў, бяздомных, пакінутых, вязняў, бежанцаў...*

Узнёслая і годная памяці роля, якую адыгрывалі манаскія супольнасці на Гродзеншчыне ў час ІІ Сусветнай вайны, калі амаль кожны кляштар удзяляў матэрыяльную дапамогу і духоўна падтрымліваў людзей бедных, раненых, праследуемых. Сёстры Беззаганнага Зачацця са Слоніма – с. Марыя Марта ад Езуса (Казіміра Валоўская) і с. Марыя Ева ад Провіду (Багуміла Наішэўская) – дапамагалі хворым і патрабуючым, сем'ям вязняў і забітых, на тэрыторыі кляштара хавалі яўрэяў. Сёстры назарэтанкі з Навагрудка вучылі дзяцей і моладзь рэлігіі, кіравалі інтэрнатам і пачатковай школай...

Манаскія асобы адважна ўваходзяць у цяжкія і маральна небяспечныя асяроддзі, каб несці дапамогу і падтрымку тым, каго свет саштурхнуў на абочыну. Праз сваю сталую малітву і пакорную службу яны даюць сведчанне веры, паказваючы людзям вышэйшыя вартасці.

Прысутнасць сярод нас такіх асоб – гэта багацце! Дзякуючы ім свет з дня ў дзень становіцца лепшым. Многія людзі нанова адшукалі Хрыстовыя словы: "Я не асуджаю цябе. Ідзі і адгэтуль больш не грашы" (Ян 8, 11). Падрастаючае пакаленне ахвотна ступае на шлях цудоўнай прыгоды з Усемагутным, усведамляючы, што "без Бога ні да парога".

Дзякуючы паслузе кансэкраваных асоб у Гродзенскай дыяцэзіі паўсталі многія святыні. Прычым не толькі тыя, што бачны воку, але таксама – што значна важнейшае – святыні духоўныя, у людскіх сэрцах. Мы абавязаны ім таксама тым, што маем сёння касцёлы, поўныя вернікаў, якія прытрымліваюцца гэтай сапраўднай дарогі, што вядзе да вечнага жыцця. У бягучым годзе асаблівым чынам дзякуем Богу за 25-гадовую паслугу ў Гродзенскай дыяцэзіі айцоў паўлінаў з Карэлічаў, якія наблізілі нам культ Маці Божай Чанстахоўскай, што ў многіх дамах вернікаў ушаноўваецца як Чорная Мадонна.

Сёння манахіня ідзе ў бальніцу, каб наведаць хворых і паміраючых, каб скіраваць ім словы падтрымкі і суцяшэння. Брат ці айцец-манах прысвячае свой час дзецям і моладзі, каб праз праведзеныя разам хвіліны і прыклад уласнага жыцця пасеяць у іх сэрцах галоўныя праўды веры і абудзіць павагу да аўтэнтычных хрысціянскіх вартасцей. Штодзённая, неаднойчы нябачная воку паслуга манахаў і манахінь вельмі дынамічная і, перадусім, жыццёва неабходная.

**Дарагія Чытачы!**

Давайце ахінём сваёй малітвай кансэкраваных асоб, якія служаць у нашым Касцёле. Няхай яны надалей з вялікай ахвярнасцю і адданасцю працуюць на карысць Пану і вернікам! Няхай іх штодзённае "згаранне" прынясе плён Божай ласкі ў сэрцах многіх людзей!




# СВ. МАРЫЯ ГАРЭЦІ: ЗАСТУПНІЦА НЯВІННІЦ



*У іканаграфіі св. Марыя Гарэці прадстаўлена з пальмовай галінкай і лілеяй у руцэ.*

**Маючы 11 гадоў, аддала перавагу страце жыцця, чым нявіннасці. Не спалохалася смерці, больш баючыся абразіць Бога. З'яўляецца заступніцай моладзі, дзяўчат і бялянак.**

**ПРАБАЧЫЛА МУЧЫЦЕЛЯ**

Марыя Гарэці нарадзілася 16 кастрычніка 1890 года ў Карынальда (Італія). Праз некаторы час сям'я пераехала ў Ферыера дзі Конка. Пасля смерці бацькі набожная 10-гадовая дзяўчынка часта брала ў рукі ружанец і малілася аб супакоі для душы таты.

З адыходам у вечнасць мужа і бацькі ўвесь цяжар утрымання сям'і пералёг на маці. Старэйшыя браты, каб зарабіць на жыццё, мусілі працаваць у суседзяў, на полі ці ў вінаградніку. Марыя ж дапамагала маме з хатнімі абавязкамі. Калі аднойчы пачула, як хлопцы расказвалі непрыстойныя жарты, усклікнула: "Я лепш бы памерла, чым паўтарала такія словы". Дзяўчынка не чакала, што ёй так хутка прыйдзецца ўласнай крывёй і жыццём пацвердзіць свае словы.

Першую св. Камунію Марыя прыняла ў 11 гадоў і з гэтага моманту ўсімі сіламі старалася штодзень станавіцца лепшай. Праз 6 месяцаў яе чакала цяжкае выпрабаванне. Сям'я Гарэці дзяліла дом з партнёрам бацькі Марыі, Аляксандрам. Калі несумленны малады чалавек пачаў праследаваць дзяўчынку са сваім грэшным запалам, яна тут жа яго адштурхнула, але нікому не паскардзілася, паколькі Аляксандр пагражаў, што заб'е дзяўчо разам з маці, калі тая выдасць яго. Тым не менш, нават пасля аднаразовай адмовы маладзён не адказаўся ад сваёй пажадлівасці і ў чарговы раз гвалтоўна атакаваў Марыю. Дзяўчынка спрабавала супраціўляцца, з усіх сіл крычала: "Не, гэта грэх! Пан Бог не хоча гэтага!". Аляксандр, ахоплены страхам і гневам, біў яе ўсляпую штылетам.

Цела Марыі было працята 14-цю ўдарамі. Дзяўчынку перавезлі ў бальніцу ў Нетуна. На жаль, хірургі мусілі згадзіцца з тым, што ўжо нічога не могуць зрабіць, каб выратаваць яе. Наступнай раніцай Марыя прыняла св. Камунію. Калі ў яе спыталіся пра Аляксандра, выразна адказала, што прабачыла яму, што будзе маліцца за яго і хацела б сустрэцца ў Небе.

Адышла ў вечнасць 6 ліпеня 1902 года. У яе пахаванні прынялі ўдзел шмат тысяч чалавек, узрушаных страшным злачынствам Аляксандра. З балконаў і акон на белую труну падаў дождж з кветак. Дзяўчынку празвалі "св. Агнешкай XX веку".

Беатыфікавана 27 красавіка 1947 года, кананізавана 24 чэрвеня 1950 папам Піем XII. Святы Айцец ставіў Марыю Гарэці як прыклад паводзін для моладзі. У лісце "Discorsi e Radiomessaggi" назваў яе "мучаніцай зямлі і анёлам у Небе".

**ЧАМУ МЫ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. МАРЫІ ГАРЭЦІ?**

Святая вучыць сталасці ў захаванні Божых запаведзяў. Нагадвае, што лепш памерці, чым зграшыць. Як ахвяра насілля яна сваім прыкладам сведчыць, што прабачэнне можа збавіць душу іншага чалавека.

**ЦІКАВА!**

Забойца Марыі выйшаў з турмы праз 28 гадоў. Там перажыў поўнае навяртанне, выпрашанае, як сам лічыў, праз заступніцтва дзяўчынкі. Апошнія гады свайго жыцця мужчына правёў у кляштары капуцынаў як свецкі тэрцыярый. Быў сведкам у працэсе кананізацыі Марыі.

**З ВУСНАЎ СВЯТОЙ**

"Смялей! Бог нас не пакіне!".

**ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН**

Касцёл узгадвае св. Марыю Гарэці 5 ліпеня.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# СЛУЖЭННЕ ПІЛІГРЫМУЮЧАМУ БОЖАМУ ЛЮДУ



**Сёння ў гасцях рэдакцыі "Слова Жыцця" а. Юрый Саковіч OSPPE, які распавядае пра пачаткі паўстання Ордэна Святога Паўла – Першага Пустэльніка (паўлінаў), яго харызму і ікону Чорнай Мадонны, якая моцна паўплывала на марыйную форму духоўнасці як саміх айцоў ордэна, так і шматлікіх вернікаў цэнтральнай і ўсходняй Еўропы.**

● працяг са с. 1

*– А. Юрый, як паўстаў ордэн айцоў паўлінаў? З якога часу вядзецца яго гісторыя?*

– Зараджэнне ордэна цесна звязана з вянгерскай зямлёй і адносіцца да XIII стагоддзя. Праводзячы адночы візітацыю ў сваёй дыяцэзіі, біскуп Барталамей сустрэў шмат пустэльнікаў. Ён быў моцна ўражаны суровым і цнатлівым жыццём манахаў. У 1225 годзе сабраў разам разрозненых пустэльнікаў і склаў для іх першы часовы збор правіл, які акрэсліваў жыццё ў кляштары накшталт статута бенедыкцінцаў: фізічная праца, малітва, абмежаванае апостальства.

У 1308 годзе кардынал Генціліс, легат папы Клімента V, афіцыйна зацвердзіў Ордэн Святога Паўла – Першага Пустэльніка. Праз год былі зацверджаны першыя манаскія статуты. Ордэн распаўсюдзіўся ў Венгрыі і на Балканскім паўвостраве, у Польшчы, Аўстрыі і Германіі, быў вядомы таксама ў Італіі, Францыі, Іспаніі і Партугаліі, адкуль трапіў у Паўночную Амерыку разам з піянерамі хрысціянства.

З Венгрыі ордэн паўлінаў распаўсюдзіўся на тэрыторыю Харватыі, дзе ўзнікла каля 50-ці кляштараў, а ў Рэметэ паўстаў першы марыйны санктуарый ордэна. У Харватыі ўпершыню быў уведзены паўлінскі брэвіярый і Імшал. Паўліны арганізоўвалі ўласныя школы і ўніверсітэт. З ордэна выйшлі біскупы і нават 1 кардынал – мучанік.

Піку развіцця ордэн паўлінаў дасягнуў у XVI стагоддзі, калі ў краінах Еўропы, а таксама ў Палестыне і Егіпце ў 8-мі правінцыях існавала 300 кляштараў. Сёння ордэн налічвае больш за 70 кляштараў і каля 600 членаў манаскай супольнасці.

*– На чым палягае харызма ордэна айцоў паўлінаў?*

– Асаблівай харызмай ордэна з'яўляецца культ Багародзіцы, які выражаецца галоўным чынам у Яе перайманні ў справе ўласнага асвячэння і ў апостальскай дзейнасці. Яшчэ першыя паўлінскія айцы пустэльнікі паглыбляліся ў жыццё Пана Езуса разам з Марыяй, Яго Маці, бо лічылі, што значна лепш можна ўспрыняць Хрыста, Яго словы, учынкі і жэсты "ў супрацоўніцтве" з Тою, якая найлепш і найбольш поўна прыняла Збаўцу. Молячыся да Маці Божай, мы праходзім катэхізацыю Найсвяцейшай Панны Марыі, якая вучыць не апускаць рукі, працягнутыя да Нябеснага Айца.

*– Самым вядомым кляштарам і духоўным цэнтрам ордэна айцоў паўлінаў з'яўляецца Ясնагорскі санктуарый у Польшчы. Ён вядомы на ўвесь свет тым, што на гэтых землях захоўваецца адна з найвялікшых хрысціянскіх святынь – ікона Чорнай Мадонны...*

– Так, Яснагорскі санктуарый Маці Божай Чанстахоўскай у Польшчы аказаў вялікі ўплыў на марыйную форму духоўнасці як саміх айцоў ордэна, так і вернікаў цэнтральнай і ўсходняй Еўропы. Св. Ян Павел II у адным з казанняў перад цудоўным абразом зазначыў, што "ласка Яснай Гары стала агульнай харызмай усяго ордэна". Можам назіраць, што не спыняюцца і шматлікія пілігрымкі вернікаў з розных куткоў свету да іконы Маці Божай, каб выпрасіць у Яе неабходныя ласкі. Людзі шчыра вераць у заступніцтва Чорнай Мадонны. Дарэчы, айцы паўліны, якія служаць у Беларусі, маюць звычай, куды б яны не накіроўваліся, браць з сабою чанстахоўскую ікону, каб Маці Божая з Яснай Гары заўсёды была з імі побач.

*– Хто з'яўляецца для айцоў паўлінаў годным пераймання прыкладам манаскай святасці?*

– Першы хрысціянскі манах св. Павел з Тэба, які жыў на памежжы далёкіх III–IV стагоддзяў. Са 113-ці гадоў жыцця 91 год ён правёў у пустэльніцтве, у малітве, пакаянні і адзіноце. "Сам-насам з Богам" – гэтыя словы па прыкладзе св. Паўла сталі дэвізам і заклікам для кожнага белага манаха. Хоць святы і не з'яўляецца фармальным заснавальнікам нашага ордэна і яго фундатарам, шмат звязваем з яго асобай. Перадусім, трэба зазначыць, што сам ордэн носіць назву на ўзор яго імені – паўліны, Ордэн Святога Паўла – Першага Пустэльніка (Ordo Sancti Pauli Primi Eremitae).

У біяграфіі святога гаворыцца, што ён штодзённа атрымліваў ад Бога паўбохана хлеба, які прыносіў таму воран. Гэтае сілкаванне "нябеснай" ежай заахвочвае айцоў паўлінаў да асаблівай адарацыі Езуса Эўхарыстычнага. Адсюль вынікае і наступная рыса харызмы нашага ордэна – жыць Эўхарыстыяй.

Да характарыстычных харызмы ордэна айцоў паўлінаў таксама адносяцца сузіранне Бога ў адзіноце, любоў да літургічнай малітвы і пакаяння, душпастырская дзейнасць як служэнне пілігрымуючаму Божаму люду.

*– Распавядзіце, калі ласка, пра пачаткі дзейнасці айцоў у Беларусі. Дзе былі закладзены першыя пляцоўкі для іх служэння? Што прыемна ўразіла ў Касцёле ў Беларусі?*

– Першыя на тэрыторыі Беларусі айцы паўліны непрацяглы час служылі пры гродзенскай катэдры, а таксама ў парафіях у Ваўкавыску і Новым Двары. На працягу 25-ці гадоў айцы нясуць паслугу ў Карэлічах і Варончы. Тут сёння заняты душпастырскай дзейнасцю 3 манахі: а. Леанард Адушкевіч, а. Ануфрый Альховік і я.



Канкрэтна я прыехаў у Беларусь 13 гадоў таму. Увесь гэты час захапляюся жывой верай тутэйшых людзей. Яны актыўныя, адгукаюцца на чужую бяду, дапамагаюць адзін аднаму. Мы разам адчуваем сябе як адна сям'я! Парафіі ў нас невялікія (у Карэлічах – 140 парафіян, у Варончы – 109), але амаль усіх вернікаў заўсёды можна ўбачыць у касцёле. Называем нашу святыню "санктуарыем жыцця", бо бачым, што Бог ніколі не пакідае. Неаднаразова ўпэўніваліся, што Найвышэйшы падтрымлівае нас сваёй ласкай. Мелі шчасце, напрыклад, вымаліць дзіця для сям'і, якая доўга не магла зачаць. Дарэчы, амаль палова парафіян задзейнічана ў акцыі "Духоўнае ўсынаўленне". Лічу гэта вялікім дасягненнем і нават цудам для парафіі! Малюся і прашу Бога, каб гэтая вера жыла, каб людзі ніколі не здраджвалі Хрысту. А мы, айцы паўліны, будзем імкнуцца і надалей рабіць усё магчымае, каб наталяць голад вернікаў па Богу.



*Ангеліна Пакачайла*

*На с. 1 выкарыстана фота Прэс-бюро Яснай Гары.*

*З нагоды ўрачыстасці 25-годдзя прысутнасці ордэна паўлінаў у Беларусі ў Карэлічах і Варончы айцы дзякуюць Пану Богу і Багародзіцы, Маці і Каралеве, св. патрыярху Паўлу і ўсім святым ордэна за тое, што пустыня манаскага жыцця, якую па волі Нябеснага Айца яны маюць удабраць праз сузіранне і жыццё ў самотнасці, праз працу і адрачэнні, праз абвяшчэнне Евангелля і даванне сведчання веры і новага жыцця ў Хрысце па ўсім свеце, прыносіць плён.*

**Святкаванне ўрачыстасці 25-годдзя прысутнасці ордэна паўлінаў у Беларусі адбудзецца:**

**28 чэрвеня ў Карэлічах**
*(у свята Маці Божай Нястомнай Дапамогі, галоўнай заступніцы парафіі),*
**26 ліпеня ў Варончы**
*(у дзень успаміну св. Ганны, галоўнай заступніцы парафіі),*
**26 жніўня ў Карэлічах**
*(у свята Маці Божай Чанстахоўскай, заступніцы і асаблівай апякункі ордэна).*

**Айцы паўліны сардэчна запрашаюць вернікаў Гродзенскай дыяцэзіі наведаць паўлінскую пустэльню ў любы зручны час.**

---

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*Я хацеў бы сказаць асаблівa моладзі, што наш самы небяспечны вораг – гэта не канкрэтныя праблемы, якімі б сур'ёзнымі і драматычнымі яны не былі; самая вялікая небяспека ў жыцці – гэта злы дух прыстасавальніцтва, які не з'яўляецца ні лагоднасцю, ні пакорай, але паваргхоўнасцю і маладушнасцю. Калі маці і бацька бачаць юнака, які пасіўна сядзіць увесь дзень дома, што думаюць пра яго: "Ці не хворы ён?" – і вядуць яго да ўрача... Ці не так? Жыццё маладога чалавека – гэта імкненне наперад, заклапочанасць, здаровы неспакой, здольнасць не згаджацца на жыццё без прыгажосці, без колеру. Калі маладыя людзі не будуць прагнуць сапраўднага жыцця, куды прыйдзе чалавецтва? Куды прыйдзе чалавецтва з пасіўнай, пазбаўленай неспакою моладдзю? Малады чалавек павінен дайсці да парога пэўнага пераходу, дзе адкрываецца магчымасць перастаць жыць самім сабой, сваімі справамі, сваімі дабротамі, і менавіта таму, што яму не хапае поўнага жыцця – пакінуць усё, каб пайсці за Панам... Езус жа прапануе не сурагаты, а сапраўднае жыццё, сапраўдную любоў, сапраўднае багацце! А як зможа моладзь ісці за намі ў веры, калі не будзе бачыць, што выбіраем "арыгінал", калі бачыць нас, прызвычаеных да паўмер. Кепска, калі сустракаеш хрысціян напалову, хрысціян – дазволю сабе сказаць – "карлікавых", якія растуць толькі да пэўнай вышыні, а потым ужо не, хрысціян з абмежаваным, закрытым сэрцам. Кепска, калі сустракаеш такое. Патрэбны прыклад кагосьці, хто пакліча мяне выйсці "па-за", "далей", каб пакрысе ўзрастаць...*

*Фрагменты прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 13.06.2018*

### Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч



*Слова "касцёл" паходзіць ад грэчаскага слова "ecclesia", што значыць "сход". Касцёл сапраўдны тады, калі людзі складаюць супольнасць. Як будынак ён неабходны, каб збіраць вернікаў і такім чынам будаваць святыню з жывых камянёў – нашых сэрцаў. Евангелле вучыць, што той Касцёл, вуглавым каменем якога з'яўляецца Хрыстос, будуецца на Пятры. Таму ён стаіць ужо 2000 гадоў і пякельныя брамы не могуць яго перамагчы, што пацвярджае гісторыя. Будаванне жывога Касцёла адбываецца праз паслугу біскупаў і святароў з удзелам вернікаў. Св. Ігнацый з Антыёхіі гаворыць, што там, дзе ёсць біскуп, ёсць і Касцёл. А найбліжэйшымі памочнікамі біскупаў у будаванні Касцёла з'яўляюцца святары...*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас урачыстасці 400-годдзя кансэкрацыі пабрыгіцкага касцёла ў Гродне, 13.06.2018*




◆ *Савет кардыналаў (К-9) перадаў Святому Айцу Францішку праект новай Апостальскай канстытуцыі аб Рымскай курыі. На 25-ай сесіі Савета быў падрыхтаваны першы тэкст, у якім Папа пазней зробіць заўвагі і папраўкі, на яго думку правільныя, карысныя і неабходныя. У дакуменце Савет падкрэсліў, што розныя элементы рэформы Рымскай курыі ўжо ўведзены на працягу 5-ці гадоў дзеяння да К-9.*

◆ *Аргенцінскія актывісты pro-life сабралі ў сваёй краіне больш за 400 тыс. подпісаў супраць закона аб абортах, які зараз абмяркоўваецца ў парламенце. Ён прадугледжвае пазбаўленне крымінальнай адказнасці і пакарання за перапыненне цяжарнасці. Напярэдадні прыхільнікі новага законапраекту падалі ў парламент 70 тыс. подпісаў за яго прававое ўрэгуляванне. На дадзены момант аборты ў краіне лічацца нелегальнай справай. Выключэнне складаюць толькі сітуацыі пагрозы жыцця маці або факт, што цяжарнасць наступіла ў выніку згвалтавання.*

◆ *Ганконг (Кітай) стане наступным этапам Пілігрымкі даверу па Зямлі, якую арганізуе экуменічная супольнасць Тэзэ. Сустрэча больш за 15-ці тыс. маладых хрысціян з усяго свету адбудзецца 8–12 жніўня 2018 года. У сустрэчы, між іншым, прымуць удзел англіканскі арцыбіскуп Ганконга Пол Квонг, мясцовы каталіцкі біскуп кардынал Джон Тонь Хон і пастыр Са Шынья IT Эрык, старшыня Хрысціянскага савета Ганконга. У праграме, як заўсёды, сумесныя малітвы, медытатыўныя спевы, біблейскія разважанні, чуванні ў цішыні і інш.*

◆ *Пасля шматгадовых намаганняў католікі вярнулі касцёл св. Клімента ў Севастопалі ў Крыме (Расія), закрыты для рэлігійнага культу ў 1936 годзе. У 1958 годзе святыня была перароблена ў кінатэатр, які дзейнічаў да 2006 года. З таго часу будынак стаяў зачынены. Рашэнне аб вяртанні святыні, якая знаходзіцца ў цэнтры горада, прынялі мясцовыя ўлады. Дапаможны біскуп Адэска-Сімферопальскай дыяцэзіі Яцэк Пыль, які мае рэзідэнцыю ў Крыме, адзначыў, што "вяртанне касцёла св. Клімента каталіцкай супольнасці з'яўляецца надзвычайнай падзеяй".*

◆ *Скончаны працы, звязаныя з пераносам помніка папу Яну Паўлу II у французскім горадзе Плоэрмель. Манумент перамешчаны на 30 метраў ад месца, дзе ён быў пастаўлены ў 2006 годзе, і цяпер знаходзіцца на тэрыторыі каталіцкай гімназіі Сакрэ-Кёр. Прычына? Прысутнасць помніка, на якім змяшчаецца каталіцкі крыж, у публічнай прасторы палічылі незаконнай. Як інфармуе агенцтва "AFP", помнік будзе вернуты на папярэдняе месца. Вакол папскага манумента ўжо на новым месцы будзе арганізавана рэлігійная прастора засяроджання і малітвы, прысвечаная св. Яну Паўлу II.*

*credo.pro; ch24.pl; niedziela.pl*

# "Мадонны і не толькі"

● *працяг са с. 1*



## ПРЫГАЖОСЦЬ І ТАЯМНІЦА РАМАНСКАЙ І ГАТЫЧНАЙ СКУЛЬПТУРЫ Ў ЕЎРОПЕ Ў X–XVI СТАГОДДЗЯХ

Прэзентацыя фатаграфій Юрыя З. Касючэнкі адбылася ў Інфармацыйна-турыстычным цэнтры Гродзенскай дыяцэзіі ў межах сустрэчы Душпастырства настаўнікаў і выхавацеляў г. Гродна, арганізаванай кс. канонікам Антоніем Грэмзам. Аўтар фотакалекцый, якія прадстаўляюць статуі Мадонны, расказаў прысутным, што здымкі былі зроблены ў многіх вядомых музеях, замкавых галерэях, дыяцэзіяльных музеях, касцёлах і манастырах, старых капліцах і месцах адпраўлення культу. Збор паўстаў у 1995–2015 гадах падчас падарожжа фатографа па краінах Еўропы: Аўстрыі, Францыі, Германіі, Польшчы, Партугаліі, Італіі.

***"Я рабіў здымкі, між іншым, у Луўры і ў Музеі Клюні ў Парыжы, у Музеі сакральнага мастацтва ў Ахене, Баварскім нацыянальным музеі ў Мюнхене, Нацыянальным музеі ў Варшаве. Багатая калекцыя паўстала на Шляху раманскіх касцёлаў у Кёльне,*** – адзначае спадар Юрый. – ***Падчас фатаграфавання карыстаўся як лічбавай, так і аналагавай камерай пры дапамозе штатыва, затым ашчадна апрацоўваў файлы на камп'ютары. У выніку арганізаваў 3 фотавыставы на тэму археалогіі відарыса Мадонны ў выглядзе скульптуры. Першая выстава называлася «Мадонны не толькі прыгожыя», наступная – «Па слядах Мадоннаў» і яшчэ адна – «Мадонны і не толькі»".***

Паводле слоў фатографа, у назве 3-яй выставы падкрэсліваецца, што яе тэмай з'яўляецца не толькі Мадонна. Тут, між іншым, прадстаўлена фатаграфія адной з самых старажытных разьбяных выяў Хрыста (з 975 года, знаходзіцца ў катэдры ў Кёльне). Фігура Месіі на залатым укрыжаванні св. Герона натуральнай велічыні, выканана з дубу. Мае 1,87 м у вышыню (ад ступняў да галавы), а ахоп рук складае 1,66 м. Аўтэнтычным з'яўляецца таксама крыж вышынёй 2,88 м і шырынёй 1,98 м. Фігуру характарызуе мяккая пастава цела і моцны дынамізм, што падкрэслівае не толькі поза Хрыста, але таксама апушчаная галава і лёгка апалыя ўніз далоні. Гэта прыклад культавай скульптуры з раннеатонаўскага перыяду, калі алтарная скульптура яшчэ абмяжоўвалася адзіночнымі статуямі, змешчанымі над менсай алтара.

Падчас прэзентацыі аўтар звярнуў увагу на здымак скульптуры "Мадонна з Алабока". Гэтая невялікая фігура лічыцца адной з самых старэйшых драўляных культавых скульптур, захаваных на землях хрысціянскай Польшчы. Мае высокую мастацкую якасць і арыгінальнае пасланне. ***"Паказвае Марыю, якая сядзіць на нізкім сядзенні, з Дзіцяткам, прытуленым да Яе лона. Абое прадстаўлены сцісла франтальна. Уражвае моцная дыспрапорцыя паміж партыяй ног Марыі і Яе худым торсам. Настрой урачыстага і пазачасовага трывання Маці з Сынам тонка кантрастуе з псіхалагізаваным выразам мякка змадэляванага аблічча Мадонны, на якім адлюстраваны смутак,*** – распавядае фатограф. – ***Верагодна, важным элементам мастацкага выразу твора была каларыстыка, якую сёння цяжка аднавіць на аснове захаваных рэштак. Дамінуе жамчужны колер твару Марыі, абрамленага жоўцю валасоў, якой спадарожнічае чырвань шатаў: ржавае адценне плашча і больш інтэнсіўны колер тунікі – а таксама чорная «шашка», што аздабляе бакі сядзення".***

Спадар Юрый расказаў, між іншым, пра "Прыгожую Мадонну" – фігуру, якая прадстаўляе сабой Марыю ў стаячай паставе з Дзіцяткам на плячы. Багародзіца апранута ў ніжнюю сукенку і шырокі плашч, што ззаду дастаткова цесна абцягвае Яе фігуру, а спераду складваецца ў пульхныя складкі. З багаццем драпіроўкі шатаў Мадонны кантрастуе галізна Дзіцятка. Маці схіляе да Сына свой поўны дзявочай прыгажосці твар і пяшчотным жэстам правай далоні падае Яму яблык. Хрыстос апірае правую ручку на плод, прымаючы яго неахвотна, з бояззю, што выразна малюецца на Яго аблічы і чытаецца ў дынамічнай позе. Выдатнасць кампазіцыі і знакамітыя скульптурныя якасці спадарожнічаюць тонкай апрацоўцы дэталей: тонкім разрэзам напаўзаплюшчаных вачэй Марыі і карункавасці пальцаў Яе далоні ці мяккасці мадэлявання дзіцячага цела Хрыста. Цялесная прыгажосць Мадонны, шырока апісаная ў тэалагічных трактатах, несумненна з'яўляецца выразам духоўнай прыгажосці, якая павінна характарызаваць Божую Маці. Багацце матэрыялу плашча можа быць алюзіяй да ідэі Марыі – Маці Міласэрнасці, якая, з-за таго, што з'яўляецца Маці Бога, мае асаблівую ласку заступніцтва за грэшнае чалавецтва перад сваім Сынам. Бель плашча магла б быць спасылкай на колер шатаў збаўлення, апісаных у "Адкрыцці", а чырвань – на колер крыві, пралітай Збаўцам. Выразнай алюзіяй на Ахвяру на Галгофе з'яўляецца матыў яблыка. Ён дазваляе бачыць у Марыі новую Еву, якая сваёй пакорнай згодай на Уцелаўленне выпраўляе непаслухмянасць Прамаці, якая, пакаштаваўшы плод з Дрэва пазнання, звяла на людскі род першародны грэх. Яго вынікі скасаваў збавеннай ахвярай уласнага жыцця Хрыстос – новы Адам.

**Юрый З. Касючэнка выкладае фізіку ў Варшаўскім політэхнічным універсітэце. Захапляецца дакументаваннем фальклору Падгаля, людзей гор, іх музыкі, а таксама фатаграфаваннем скульптур перыяду еўрапейскага сярэднявечча.**

Апрача здымкаў скульптур Мадонны аўтар прадставіў таксама П'еты. Расказаў, між іншым, гісторыю П'еты з Любёнжа – гатычнай скульптуры, што паказвае Марыю, якая трымае на каленях мёртвае цела Езуса, знятае з крыжа. ***"Гэты твор прадстаўляе містычны кірунак у гатычнай пластыцы. Належыць да вузкай групы скульптур, дэманструючых цела Хрыста ў ступеньчатай канфігурацыі, вядомых у нямецкай культуры. П'ета выканана з ліпы, налічвае 1,62 м у вышыню і пакрыта паліхраміяй і барочнай арнаментнай дэкарацыяй. Фігура Мадонны ззаду полая, а постаць Хрыста трохвымерная. На моцна збарозненым абліччы Маці Божай адлюстраваны выраз болю і цярпення. Багародзіца глядзіць на мёртвае цела Сына, якое спачывае на Яе каленях. Галава Хрыста моцна адхілена. Яго левая рука ляжыць на левай руцэ Марыі, а правая ападае ўніз. Цела Хрыста ненатуральна худое і дэфармаванае, надта выгнутае, з характэрна моцна вылучанымі рабрамі і стылізаванымі згусткамі запечанай крыві, якая выцякае з раўнамерна размешчаных ран",*** – расказвае спадар Юрый.

Фатограф звярнуў увагу, што паняцце П'ета падкрэслівае цэнныя ў сярэднявеччы марыйныя цноты: набожнасць, пакору і міласэрнасць. Найсвяцейшая Панна, прымаючы з пакорай волю Бога Айца, прыняла і радаснае нараджэнне Хрыста, і Яго мучаніцкую смерць. Гэтыя падзеі асабліва падкрэсліваюць сувязь Маці і Сына. Спалучэннем тых адносін з'яўляецца тое, што Езус ляжыць на каленях Марыі. Акт міласэрнасці Багародзіцы сімвалізуе прыняцце ахвярнай мукі Хрыста, падобна як пасля Яго нараджэння Яна клапатліва апекавалася Сынам і адначасова прыняла малітоўную паставу, што ўзмацняе культавую функцыю П'еты.



*Падчас прэзентацыі фотапраекта ў Інфармацыйна-турыстычным цэнтры Гродзенскай дыяцэзіі*



## ГРОДНА – ГОРАД ДУХОЎНАГА ФАРМІРАВАННЯ

Падчас прэзентацыі аўтар падкрэсліў, што нарадзіўся ў Гродне і правёў тут сваё дзяцінства. Быў міністрантам у францысканскім касцёле. ***"У гэтай святыні – прыгожай, утульнай – выспявала мая духоўнасць. Гэта дзякуючы прыналежнасці да службы алтара я стаў уразлівы да прыгажосці навакольнага свету, у тым ліку да духоўнага хараства. Упэўнены, што гэты перыяд меў вырашальнае значэнне, стаў фундаментам, асновай, багажом на ўсё жыццё,*** – гаворыць спадар Юрый. – ***Перад прэзентацыяй я быў ля Нёмана, зняў чаравікі, памыў сабе ногі і ў чарговы раз усвядоміў, што люблю людзей, што хачу быць адкрытым на іншага чалавека, добрым і адчувальным у адносінах да бліжніх".***

Аўтар адзначыў, што фатаграфуючы скульптуры, бачыў у іх найперш чалавека: ***"Я бачыў малое дзіцятка, жанчыну – маладую, старэйшую, церпячую маці. Мяне не цікавяць «сучасныя» Мадонны, выдуманыя і часта вельмі прымітыўныя, бо ім не хапае сярэднявечнай красы. Лічу, што гэта быў найпрыгажэйшы перыяд для свету, што людзі тады былі іншымі, лепшымі, чым цяпер. Вельмі цешуся, што мне ўдалося прадставіць жыхарам Гродна свае здымкі і на іх прыкладзе паказаць, якім чынам марыйны культ знайшоў сваё адлюстраванне ў скульптуры".***

Падчас побыту ў горадзе над Нёманам Юрый З. Касючэнка зрабіў шмат цікавых фатаграфій, найперш, людскіх твараў. Новыя працы аўтара ў хуткім часе з'явяцца на інтэрнэт-старонцы Падгальскага інфармацыйнага сервісу watra.pl.

*Кінга Красіцкая*

# “Зазірнуць пад вечка памяці”

***У сталічным выдавецтве “Энцыклапедыкс” убачыла свет кніга, якая распавядае пра жыццё ў былой Жодзішкаўскай гміне ў першай палове XX ст., а таксама прыадчыняе заслону гісторыі касцёла св. Юды Тадэвуша ў вёсцы Вішнева (дэканат Смаргонь). Выданне падзелена на 2 часткі: першая змяшчае ўспаміны Фелікса Жылкі, а ў 2-ой прадстаўлена мастацка-дакументальная аповесць Анатоля Шчучкі.***

***Выдавец невыпадкова змясціў пад адной вокладкай успаміны, напісаныя Феліксам Жылкам, і аповесць “Святыняў маўклівыя цені”. Так склалася, што род Жылкаў да пераезду ў 1900 годзе ў засценак Стаўбуцева жодзішкаўскай парафіі, на працягу 2-ух стагоддзяў жыў у засценку Роскаш каля вёскі Слаўчаняты вішнеўскай парафіі. Аповесць і ўспаміны дапаўняюць адно аднаго.***



Кніга адметная не толькі сваім зместам, але і афармленнем. Яна змяшчае старыя фотаздымкі, копіі архіўных дакументаў

## УСПАМІНЫ, НАПІСАНЫЯ СЭРЦАМ

Францішак Жылка, дзейсны член Беларускага геаграфічнага таварыства, складальнік і фундатар кнігі, распавядае, што ідэя яе выдання з’явілася падчас працы над стварэннем радавога дрэва Жылкаў. ***“Для завяршэння працэсу складання радаводу мне патрэбна было знайсці некаторыя звесткі пра сваіх продкаў. Я паслаў запыт сваяку Багуславу Жылку ў Гданьск. Каб даць адказы на хвалюючыя мяне пытанні, Багуслаў прыслаў сшытак з успамінамі свайго бацькі – Фелікса Жылкі, які да 1939 года быў войтам у Жодзішкаўскай гміне,*** – распавядае спадар Францішак. – ***Яны ахопліваюць дзеі 1900–1951 гадоў. У гэтых запісах адлюстраваны галоўныя здарэнні ў сям’і, узаемаадносіны між суседзямі, вернікамі розных канфесій, прыстасаванне да новых улад, побыт гарадоў і мястэчак, у якіх па волі лёсу даводзілася апынуцца аўтару ўспамінаў. Фелікс пачаў занатоўваць свае назіранні і думкі з канца XIX стагоддзя. З часам сабралася шмат запісаў. Але падчас II Сусветнай вайны яны, на вялікі жаль, былі знішчаны. Калі Фелікс сышоў на пенсію, у яго з’явілася больш вольнага часу і ён вырашыў «зазірнуць пад вечка сваёй памяці» ды запісаць на паперы ўсё, што ўспомніў, каб паказаць сваім блізкім па крыві людзям, якімі дарогамі ішоў род Жылкаў”.***

Францішак Жылка падкрэслівае, што аўтар успамінаў, які з’яўляецца стрыечным братам яго дзеда, вельмі дакладна скампанаваў інфармацыю, гістарычныя факты, задакументаваў прозвішчы і імёны людзей – жыхароў Жодзішкаў і ваколіц.

***“Мяне ўразіла, наколькі добра чалавек запомніў усё, што адбывалася на працягу стольких гадоў,*** – зазначае спадар Францішак. – ***Напэўна, гэта звязана з тым, што кожная апісаная падзея прайшла праз яго сэрца. Ён натаваў тыя выпадкі, у эпіцэнтры якіх знаходзіўся сам. Менавіта ў гэтым і заключаецца гістарычная каштоўнасць успамінаў. Калі хто-небудзь з навукоўцаў, пісьменнікаў ці краязнаўцаў і спрабаваў адлюстраваць жыццё жодзішкаўскай зямлі, то апісваў яго з пазіцыі сваёй праўды, высоўваў у першыя шэрагі герояў, блізкіх сабе па духу, ідэалогіі, а Фелікс Жылка на першае месца ставіў праўду сваёй зямлі. Ён распавёў пра касцёл у Жодзішках, капліцу ў Дубку, прадставіў шмат звестак пра кс. пробашча Рамуальда Дроніча, не абмінуў увагай кс. Вінцэнта Гадлеўскага, таксама ўспомніў пра кс. Стэфана Запасніка”.***

Францішак Жылка пераклаў успаміны сваяка з польскай на беларускую мову, адрэдагаваў, аздобіў фотаздымкамі з сямейных архіваў, а таксама з калекцый Уладзіміра Ліхадзедава і Уладзіміра Багданава. У выніку атрымалася цікавая кніга.

***“Я ўпэўнены, што калі ўспаміны напісаны сэрцам, то яны і дойдуць да сэрцаў,*** – заўважае спадар Францішак. – ***Фелікс Жылка, дакладна занатоўваючы ў свой сшытак найважнейшыя падзеі з жыцця шляхецкага роду і парафіяльнай супольнасці, напэўна, добра ўяўляў, што яны могуць стаць штурышком да вяртання сапраўднай гістарычнай праўды жодзішкаўскай зямлі, якую «размылі» абставіны і дзесяцігоддзі. Цешуся, што ўдалося зберагчы гэты падмурак, на якім наступныя пакаленні будуць будаваць сваё жыццё”.***

## “СВЯТЫНЯЎ МАЎКЛІВЫЯ ЦЕНІ”

Менавіта такую назву носіць 2-ая частка кнігі, у якой распавядаецца пра гісторыю каталіцкай парафіі ў Вішневе. Аўтарам твора – невялікай па аб’ёме, але вельмі грунтоўнай па змесце дакументальна-мастацкай аповесці – з’яўляецца Анатоль Шчучка, які нарадзіўся на вішнеўскай зямлі.





Касцёл св. Юды Тадэвуша (Вішнева) са званіцай, 1916 г.

***“Гісторыю маёй аповесці можна адлічваць з 2013 года, калі я знайшоў у вішнеўскім касцёле старадаўні абраз св. Юзафа з Дзіцяткам Езус,*** – распавядае аўтар. – ***Пачаў шукаць пра яго звесткі. Аказалася, што ў святыні ў пачатку XIX стагоддзя было 2 абразы: св. Тадэвуша і св. Юзафа з Дзіцяткам Езус. Абодва належалі пэндзлю вялікага беларуска-польска-літоўскага мастака Яна Дамеля. Ён напісаў іх па замове ў Вільні ў 1811 годзе. Пасля паўстання Каліноўскага храм аддалі праваслаўным, а католікі пабудавалі побач драўляны касцёл. Туды аддалі абраз св. Тадэвуша. Але падчас I Сусветнай вайны ён быў страчаны разам з касцёлам. Абраз св. Юзафа з Дзіцяткам Езус у гэты час знаходзіўся ў будынку ранейшай святыні. Ужо пры польскай уладзе яе вярнулі католікам, а абраз павесілі над алтаром. З часам ён стаў цямнець, старэць, таму быў зняты і многія гады проста пыліўся. Па просьбе старэйшага пакалення мясцовых вернікаў я знайшоў гэты абраз, перадаў спецыялістам. Зараз, пасля аднаўлення, ён зноў займае пачэснае месца ў храме – вісіць над галоўным алтаром”.***

Анатоль Шчучка падкрэслівае, што знаходка стала сапраўднай падзеяй у духоўным і культурным жыцці Беларусі, а яго самога натхніла на пошук звестак пра гісторыю мясцовага касцёла.

***“Усе гістарычныя факты і падзеі, што тычыліся вішнеўскай парафіі і траплялiся мне на вочы, я старанна занатоўваў, захоўваў на камп’ютары,*** – гаворыць спадар Анатоль. – ***З цягам часу сабралася вялікая колькасць асобных тэматычных нататак. Цікава, што падчас працы над імі мне траплялiся факты, якія зусім не адпавядалі рэчаіснасці. Напрыклад, у адной з крыніц узгадваўся чалавек, які не меў ніякага дачынення да касцёла, бо памёр за 15 гадоў да пабудовы святыні, а яго прозвішча фігуравала ў якасці фундатара. У той жа час мясцовыя парафіяне не ведалі пра тых людзей, якія на самой справе ўклалі свае грашовыя сродкі, ахвяравалі здароўе і час, рызыкавалі жыццём дзеля будовы касцёла. Мне стала неяк крыўдна за тых, хто зрабіў годную справу, а зараз ляжыць у крыпце храма, але ніхто не ўзгадвае іх імёны. Таму вырашыў сабраць у адно цэлае даты, прозвішчы асоб, якія пакінулі след на гэтай зямлі, і распавесці пра гісторыю парафіі. Мне не хацелася падаваць звесткі ў сухой энцыклапедычнай форме, таму вырашыў крыху расфарбаваць іх мастацкай фантазіяй. У выніку атрымалася мастацка-дакументальная аповесць «Святыняў маўклівыя цені». Месца дзеяння і ўсе дзеючыя асобы, якія згадваюцца ў дадзеным творы, на самой справе існавалі і пакінулі свой след у гісторыі. Падзеі, апісаныя ў тэксце, рэальна адбываліся ў рэчаіснасці. Але ўсё мастацкае апісанне было выдумана. На самой справе ўсе здарэнні мелі месца пры, магчыма, зусім іншых абставінах”.***

Аўтар падкрэслівае, што падчас працы над творам прыйшлося папрацаваць і з успамінамі старэйшых жыхароў Вішнева, і з архіўнымі дакументамі, з якімі трэба было звяраць існуючыя звесткі і шукаць цікавыя ілюстрацыі да кнігі. Таксама даводзілася звяртацца да польскіх, літоўскіх, беларускіх навуковых выданняў. У выніку Анатоль Шчучка вывеў у сваім творы вобразы ўсіх ксяндзоў, якія верай і праўдай служылі вернікам, займаліся іх адукацыяй і духоўным выхаваннем: кс. Юліяна Цімашкевіча, кс. Пятра Война-Аранскага, кс. Юзафа Кісяля.

***“Мне хацелася перадаць узаемаадносіны паміж людзьмі і канфесіямі, паказаць цікавую гісторыю касцёла, у якім, нягледзячы на трагічныя падзеі, не пераставалі гучаць словы, усхваляючыя Бога, бо святыня заўсёды была пад надзейнай абаронай св. Юзафа з Дзіцяткам Езус,*** – гаворыць спадар Анатоль. – ***Я не пісьменнік, проста пісаў свой твор ад душы, бо памяць аб продках, аб роднай мясцовасці, дзе нарадзіўся і жыў, – святое для мяне”.***

Анатоль Шчучка адзначае, што вельмі цешыцца з таго, што лёс звёў яго з ініцыятыўным укладальнікам і фундатарам Францішкам Жылкам, які прапанаваў аб’яднаць пад адной вокладкай успаміны Фелікса Жылкі і гісторыю вішнеўскага касцёла. Так з Божай дапамогай і нарадзілася кніга.

Выданне выйшла накладам 200 асобнікаў. Яно захопіць тых, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі, і, перадусім, людзей, якія звязаны з жодзішкаўскай і вішнеўскай парафіяй.

*Кінга Красіцкая*







***“Фальшывы Папа”***

***Пад такой назвай у свет выйшла кніга, падрыхтаваная італьянскімі журналістамі. У ёй сабраны шэраг фальшывых звестак пра асобу папы Францішка і яго выказванні, што з’яўляліся ў СМІ.***

*Нэлё Скава, адзін з са-аўтараў, сказаў, што ідэя выдання нарадзілася пасля таго, як свет убачыла кніга “Ворагі Францішка”. У ёй расследавалася, з якім супраціўам і перашкодамі сутыкаецца Папа. Аўтары кнігі выбралі каля 80-ці асноўных абвінавачванняў у адрас Пантыфіка і правялі сур’ёзную працу па іх развянчанні.*

*“Мы вылучылі навіны, якія здаваліся найбольш цікавымі, пачынаючы з часу аргенцінскай дыктатуры і да нашых дзён. Мы бралі іх адну за другой і правяралі, прыводзячы абвяржэнне і выкрыццё”, – адзначыў сааўтар.*




***У Ватыкан вярнулася рэдкая копія ліста Калумба***

***Яна была выкрадзена пры невядомых абставінах і заменена на падробку.***

*Гаворка ідзе пра 8-старонкавы ліст, які Калумб асабіста напісаў у 1493 годзе да іспанскіх манархаў, паведамляючы аб адкрыцці Амерыкі і прыродных багаццях гэтых земляў. У той час было зроблена некалькі дзясяткаў копій гэтага ліста, якія былі разасланы ў розныя часткі Еўропы.*

*У 2011 годзе ў Міністэрства ўнутранай бяспекі ЗША звярнуўся эксперт па старажытных кнігах і манускрыптах, які выказаў меркаванне, што ліст Калумба ў ватыканскім зборы не з’яўляецца аўтэнтычным. Праведзенае даследаванне пацвердзіла гэты факт. Пасля 7-мі гадоў пошукаў супрацоўнікі амерыканскіх спецслужб адшукалі скрадзены арыгінал.*




***Памерла старэйшая манахіня ў свеце***

***Вікторыя дэ ла Круз належала да Кангрэгацыі Сясцёр Адараторак. У хуткім часе яна адзначыла б сваё 111-годдзе.***

*С. Вікторыя нарадзілася ў 1907 годзе ў Малазе (Іспанія). Пасля складання манаскіх абяцанняў была адпраўлена ў Японію. Там заснавала некалькі школ. З’яўлялася настаяцельніцай некалькіх манаскіх супольнасцей.*

*Да канца жыцця працавала на карысць моладзі і жанчын. За сваю дзейнасць была адзначана ўладамі Японіі. Год таму, калі адзначала свой 110-ты Дзень нараджэння, стала вядомай “ютуберам” усяго свету. У рытме кастаньет зайграла вядомую песню “Que viva España!” (“Няхай жыве Іспанія!”).*




### У якіх выпадках у касцёле могуць адмовіць у цэлебрацыі пахавальнай св. Імшы?

*Права на касцёльнае пахаванне належыць кожнай ахрышчанай асобе. Кодэкс кананічнага права пералічвае выпадкі, калі вернік губляе гэтае права (кан. 1184 § 1). Яго павінны быць пазбаўлены:*

*1) вядомыя адступнікі ад веры, ерэтыкі і схізматыкі;*

*2) асобы, якія выбралі крэмацыю па матывах, што супярэчаць хрысціянскай веры (напрыклад, для таго, каб асрэчыць праўду веры аб уваскрашэнні памерлых у дзень Апошняга суда);*

*3) іншыя яўныя грэшнікі, якім нельга дазволіць касцёльнае пахаванне без публічнага згаршэння вернікаў.*

*Самагубства – таксама адна з прычын, з-за якіх ахрышчаны чалавек можа быць пазбаўлены каталіцкага пахавання. Яно ніколі не ўдзяляецца неахрышчанай асобе, калі яна не з'яўляецца катэхуменам (асобай, якая рыхтуецца да прыняцця хросту).*

*Пазбаўленне чалавека пахавання ў касцёле азначае таксама адмову цэлебрацыі пахавальнай св. Імшы. Аднак гэта не азначае, што за памерлага нельга маліцца ўвогуле ці цэлебраваць у яго інтэнцыі св. Імшу. Можна і нават неабходна адпravіць Эўхарыстыю за гэтага чалавека, аднак не з фармуляра пахавальнай св. Імшы.*

*Несумненна, тыя, хто свядома пакінуў хрысціянскую веру, не маюць права быць пахаванымі па-каталіцку. Аднак тое, што ахрышчаны католік не практыкаваў сваю веру, не азначае, што ён публічна адрокся ад яе. Святар не мае права адмовіць у пахаванні такога чалавека, калі ён асабіста не ўпэўніўся, напрыклад, падчас душпастырскіх адведзін, што той не хоча мець нічога агульнага з верай. Падчас пахавання непрактыкуючай асобы святар можа выразіць непрыняцце Касцёлам такіх яе паводзін праз менш урачыстую цырымонію або праз адпаведнае казанне.*

*Часцей за ўсё адмова ў пахаванні датычыць т. зв. "яўных грэшнікаў" – тых, хто яўна і публічна жылі ў несакраментальных саюзах. У выпадках, калі гэтыя людзі падтрымлівалі кантакт з Касцёлам, маліліся, часцей за ўсё падчас пахавання не даецца дазволу на ўняесенне цела такой асобы ў святыню, хоць у яе інтэнцыі цэлебруецца св. Імша.*

*У той жа час вышэй узгаданы кан. 1184 § 1 ККП выразна падкрэслівае, што адмова ад касцёльнага пахавання не датычыць тых з пералічаных вышэй асоб (акрамя неахрышчаных), якія напрыканцы жыцця выказалі хоць якія-небудзь прыкметы пакаяння. Сітуацыя змяняецца кардынальным чынам для вернікаў, якія перад смерцю прыступілі да сакраманту споведзі і атрымалі адпушчэнне грахоў. Да прыкмет пакаяння перад смерцю таксама можна аднесці просьбу аб прыбыцці святара, нават калі б ён не паспеў прыехаць, пацалаванне крыжа, акт жалю за грахі, учыненне на сабе знака крыжа.*

*Кс. Павел Эйсмант*
***Паводле grodnensis.by***

# Летні адпачынак: для аднаўлення душэўных і фізічных сіл

**Шмат хто збіраецца летам у водпуск. Звычайна яго плануюць загадзя, каб многае паспець і па максімуму скарыстацца з выдзеленага на адпачынак тэрміну. А як бавяць свой вольны час падчас канікул навучэнцы духоўных семінарый? Як адпачываюць летам духоўныя і кансэкраваныя асобы?**

**Падчас летняга адпачынку навучэнцы семінарыі некаторы час прабываюць у яе сценах. Яны выконваюць абавязкі тых, чыя ахвярная праца не заўсёды заўважная на працягу акадэмічнага года, але, у той жа час, вельмі важная і неабходная. Такім чынам, алюмны даглядаюць за прылягаючай тэрыторыяй семінарыі, падтрымліваюць чысціню і парадак у будынку, рыхтуючы яго да рэкалекцый, у якіх хутка будуць прымаць удзел міністранты і святары. Гэты бясцэнны вопыт вучыць клерыкаў клапаціцца аб сваёй альма-матэр, шанаваць працу і старанні іншых людзей.**

**У залежнасці ад таго, на якім этапе фармацыі знаходзіцца будучы святар, семінарыйныя ўлады вызначаюць навучэнцу душпастырскую практыку. Напрыклад, 1-шы і 2-гі курсы выязджаюць у дзіцячы лагер адпачынку ў Няцечы пры "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі. 3-ці, 4-ты і 5-ты курсы на працягу аднаго летняга месяца дапамагаюць святарам у парафіях у выкананні іх штодзённых абавязкаў (у арганізацыі і правядзенні "Канікул з Богам", пілігрымак, літургічнай паслузе падчас св. Імшы, асабістых сустрэчах з міністрантамі і вернікамі парафіі і інш.).**

**Цяжка таксама ўявіць летнія канікулы семінарыста без сустрэчы з тымі, хто з'яўляецца крыніцай іх жыцця і нястомна суправаджае на дарозе да святарства, а менавіта з бацькамі і з пробашчам роднай парафіі. Час, праведзены ў асяроддзі блізкіх, з'яўляецца штуршком для таго, каб з новымі духоўнымі сіламі і запалам увайсці ў новы навучальны год.**



***Кл. Яўген Амасёнак***

*Найбольш мне запомніліся летнія канікулы пасля заканчэння 1-га года вучобы. Нават дакладна не разумею, чаму менавіта яны так моцна аселі ў памяці... Магчыма, па той прычыне, што распачаўся мой адпачынак з удзелу ў ігнацыянскіх рэкалекцыях, якія пакінулі пасля сябе неразбуральны адбітак на маёй духоўнасці і цяпер з'яўляюцца неад'емнай часткай маёй семінарыйнай фармацыі. Пасля гэтага меў унікальную магчымасць праходзіць практыку ў дзіцячым лагеры адпачынку ў Няцечы. Эмоцыі і ўражанні, якія я атрымаў падчас сумеснага прабывання з дзецьмі, не забуду ніколі. Яшчэ мне давялося далучыцца да пілігрымкі Гродна-Навагрудак, якую штогод арганізоўваюць сёстры назарэтанкі. Там я сустрэў цудоўных людзей, якія паўплывалі на маё духоўнае станаўленне і зараз нястомна суправаджаюць мяне на шляху да святарства. Час, праведзены ў семінарыі ў асяроддзі аднадумцаў, таксама навучыў мяне шматлікім рэчам, сярод якіх клопат аб адзінстве, неабходнасць узаемападтрымкі ў выкананні штодзённых абавязкаў і ўменне захоўваць добразычлівасць нягледзячы на розныя жыццёвыя абставіны. Думаю, што менавіта гэтыя падзеі і паспрыялі таму, каб той летні адпачынак запомніўся на ўсё жыццё.*

**У святароў, манаскіх айцоў, братоў і сясцёр таксама ёсць некалькі тыдняў адпачынку. Яны могуць выкарыстаць яго ў любы час, у тым ліку і летам (пры магчымасці і ўзгадніўшы з настаяцелямі). Духоўныя і кансэкраваныя асобы плануюць водпуск па ўласным меркаванні. Спярша некаторы час пажадана прысвяціць бацькам, а пасля можна сустрэцца са знаёмымі, роднымі, сябрамі. Таксама можна пайсці ў пілігрымку ці арганізаваць падарожжа, правесці час на ўлонні прыроды ці наведацца ў дом да братоў ці сясцёр са сваёй кангрэгацыі, прыняць удзел у рэкалекцыях. Галоўнае, каб час адпачынку быў выкарыстаны з карысцю, у першую чаргу, для душы.**

***С. Віргінія Хацян CSFN***

*У мінулым годзе я тыдзень правяла ў сваякоў у Польшчы. Было незвычайна і цікава, бо гасціла ў родных, якіх раней ніколі не бачыла. Апошні раз мая мама кантактавала з імі, калі была яшчэ маленькай дзяўчынкай. Потым сувязь абарвалася. Ніхто дакладна не ведаў ні адрасу, ні прозвішчаў гэтых сваякоў. Ведалі толькі, што яны ёсць, і зрэдку ўспаміналі з жаданнем знайсці. Праз нейкі час праз інтэрнэт мне ўдалося адшукаць мамінага брата, святара, які выкладае ва ўніверсітэце ў горадзе Зелёна-Гура. Ён вельмі ўзрадаваўся і здзівіўся, што мае пляменніцу манахіню. Усім сваім знаёмым распавёў! Год я з ім перапісвалася, а пасля паехала ў госці. Там пазнаёмілася з яго мамай. Было неяк трохі дзіўна разглядваць такія ж фотаздымкі, якія захоўваюцца і ў нас дома, ці слухаць гісторыі пра прадзядулю і прабабулю, якія жылі ў нас... Дзякуй Богу, што даў мне магчымасць пазнаць сваякоў, з якімі маю так шмат агульнага! А яшчэ гэтая гісторыя натхніла мяне больш маліцца за святароў, якія нясуць на сабе няпросты і адказны дар душпастырскай паслугі. Цяпер ужо проста не магу не скіроўваць свае малітвы ў іх інтэнцыях.*





***Кс. Уладзіслаў Сурвіла***

*Мінулым летам мы невялікай кампаніяй – я, дыякан, клерык і 2 свецкія хлопцы – адправіліся ў аўтамабільную пілігрымку. Выпрашылі аб'ездзіць усе абласныя цэнтры Беларусі, каб пабачыць старажытныя касцёлы і цэрквы нашай краіны. Пакланіліся таксама ля ног Маці Божай Каралевы Азёр у Браславе. Былі вельмі ўражаны Сафійскім саборам у Полацку... За 5 дзён праехалі больш за 2 тысячы кіламетраў! Чым адметная менавіта аўтамабільная пілігрымка... Можаш зрабіць прыпынак у любым месцы, калі табе захочацца. Як святару мне было няцяжка дамовіцца з пробашчамі парафій наконт начлегаў, таму з гэтым праблем не мелі. Канешне, такая пілігрымка-турнэ не магла не пакінуць у маёй душы пэўны след. Па-першае, у падарожжах чалавек узбагачаецца: пазнае новыя месцы, людзей. Па-другое, у пілігрымках маеш магчымасць "зарадзіцца" ў асаблівай атмасферы ў намоленых месцах. І па-трэцяе, ёсць нагода зірнуць на сябе збоку, навучыцца прымаць уласную асобу і іншых людзей. Безумоўна, гэта быў вельмі карысны і цікавы досвед. Пры магчымасці, напэўна, паўтарыў бы.*

**Летні адпачынак – добрая нагода для таго, каб навучыцца правільна вызначаць прыярытэты і плённа выкарыстоўваць вольны час. Іншымі словамі, гэта бясцэнны дар, каштоўнасць якога цалкам залежыць ад таго, наколькі разважліва і свядома чалавек выкарыстае дадзеную Богам магчымасць узрастаць у любові да Хрыста і бліжняга.**

*Ангеліна Пакачайла*

## НАВІНЫ



### У ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ НОВЫ СВЯТАР!

Сакрамант прэзбітэрскага пасвячэння з рук біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча прыняў дыякан Андрэй Каўшук, навучэнец Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне. Урачыстасць адбылася ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя. Пасля новапрэзбітэр па традыцыі накіраваўся ў родную парафію Найсвяцейшай Тройцы і св. Францішка Асізскага ў Свіслачы (дэканат Вялікая Бераставіца), дзе адправіў прыміцыйную св. Імшу. Прыміцыянт маліўся за блізкіх і тых, да каго ў бліжэйшай будучыні будзе пасланы для душпастырскай паслугі.

### ПРЫЗНАЧЭННІ



У Дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях (дэканат Радунь) адбылася першая сустрэча новай Калегіі кансультараў Гродзенскай дыяцэзіі. Абедзве структуры пачалі сваю дзейнасць у абноўленым складзе на перыяд наступных 5-ці гадоў.

У склад Калегіі кансультараў Гродзенскай дыяцэзіі ўвайшлі: дапаможны біскуп дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, кс. канонік Аляксандр Мацкевіч, кс. канонік Уладзімір Гуляй, кс. канонік Ян Кучынскі, кс. канонік Юзаф Багдзевіч, кс. канонік Генрых Яблоньскі, кс. канонік Антоній Грэмза. Члены Калегіі кансультараў у адпаведнасці з прызначэннем з'яўляюцца членамі Святарскай рады. Акрамя іх у склад Рады ўвайшлі: кс. канонік Цэзарый Міх, кс. Віталій Вайцяхоўскі, кс. канонік Чэслаў Паўлюкевіч, кс. Андрэй Зноска, кс. Ян Рушніцкі, кс. Томаш Ксёнжкевіч CMF, кс. канонік Ян Пузына, кс. Юрый Кузьміч, кс. Антоній Казлоўскі, а. Андрэй Шчупал CSsR.

### МАНАСКІЯ СУПОЛЬНАСЦІ



Салезіянская сям'я Беларусі адзначыла ў Смаргоні Дзень адзінства. Ганаровымі гасцямі на свяце сталі Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Габар Пінтэр, біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB, а таксама кс. Юзаф Занеўскі SDB, які распачынаў салезіянскую справу ў Беларусі. Пасля ўрачыстай св. Імшы з гэтай нагоды ў араторыі адбыўся працяг святочнай праграмы.

### КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



Дзеці і моладзь парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча ў Сапоцкіне выступілі ў мясцовым Доме культуры з прадстаўленнем "Пакінь сваю зямлю". Яно было прысвечана постаці св. Антонія Падуанскага і мела на мэце паказаць, чаму вучыць гэты святы сучасных людзей.

У касцёле Маці Божай Анёльскай у Гродне міністранты разам з хорам „Misterium" прадставілі перад вернікамі пантаміму пад назвай "Жыць Евангелем – магчыма". Яна была заснавана на эпізодах з жыцця св. Яна Паўла ІІ.

У Гродне фінішавала X Парафіяда дзяцей і моладзі Гродзенскай дыяцэзіі. Сёлета ў мерапрыемстве прыняло ўдзел каля паўтысячы хлопцаў і дзяўчат з 30-ці парафій.



### АДНЫМ РАДКОМ

• "Канікулы з Богам" з удзелам соцень дзяцей прайшлі ў парафіях Божай Міласэрнасці ў Гродне і свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі. • У парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску адзначылі 3-годдзе з дня кансэкрацыі касцёла. • У касцёле Адшукання Святога Крыжа (пабернардынскі) адзначылі 400-годдзе асвячэння святыні і 40-годдзе святарскай паслугі пробашча парафіі кс. прэлата Антонія Ханько. • 7 выпускнікоў катэхетычных курсаў пры Аддзеле навучання і выхавання Гродзенскай курыі атрымалі дыпломы і пастырскае блаславенне біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**25 чэрвеня 1939 г.** – кс. Тамаш Калінскі, *проб. Міжэрычы;*
**30 чэрвеня 1994 г.** – кс. Станіслаў Петраш SchP, *проб. Крамяніца.*

## АНОНСЫ

### ПЕШАЯ ПІЛІГРЫМКА ВЫРУШЫЦЬ З ГРОДНА Ў НАВУМАВІЧЫ

**Паломнікі накіруюцца да месца спачыну расстраляных падчас ІІ Сусветнай вайны жыхароў Гродна і Лісска. Дэвіз сёлетняй пілігрымкі – "Каб сведчанне іх не было забытае!".**

Паломніцтва адбудзецца 14 ліпеня. Збор у касцёле Маці Божай Анёльскай (францішканскі) у 12.00, дзе пройдзе супольная малітва, адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту і блаславенне. Пілігрымы прыбудуць на Форт №2 каля Навумавічаў, каб прыняць удзел у св. Імшы ў памяць аб загінулых. Яе пачатак у 19.00.

*Падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 029) 286-31-78, кс. кан. Антоній Грэмза.*

### IX ПАЛОМНІЦТВА ВЫРУШЫЦЬ З ГРОДНА Ў НАВАГРУДАК

**Пілігрымка да месца мучаніцкай смерці 11-ці блаславёных сясцёр назарэтанак будзе праходзіць з 22 па 28 ліпеня.**

Тэма сёлетняга паломніцтва – "Мучаніцтва: любоў, вернасць і клопат аб супольнасці Касцёла". Дэвізам пілігрымкі абраны словы "Вось воля Твая". Арганізацыйная сустрэча адбудзецца 20 ліпеня ў 20.00 у гродзенскім касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (вул. К. Маркса, 27).

*Запіс ажыццяўляецца падчас спаткання альбо па тэлефонах: (8 029) 882-60-88 – с. Філатэя; (8 033) 321-26-33 – с. Клара.*

### "ШКОЛА НАРАДЖЭННЯ" ПРОЙДЗЕ Ў НАВАГРУДКУ

**Курс заняткаў для сужэнцаў, гінеколагаў, акушэраў і іншых зацікаўленых запланаваны на 6–11 ліпеня.**

Яго мэта – падрыхтоўка бацькоў да натуральных родаў, а таксама фармацыя інструктараў, якія будуць дапамагаць маладым сем'ям у перадродавы перыяд.

**"Школа" прапануе цыкл сустрэч:**

- выкананне спецыяльнай гімнастыкі;
- музыкатэрапія;
- адпачынак, рэлакс;
- падрыхтоўка да нараджэння;
- догляд за нованароджаным.

Заняткі праходзяць у цікавай і разнастайнай форме: слуханне лекцый, прагляд фільмаў і малітва за дзяцей. "Школа нараджэння" носіць хрысціянскі характар, бо грунтуецца на асабістай размове з Богам. Галоўны пункт дня – Эўхарыстыя.

*Запісацца на курс можна да 26 чэрвеня па электронным адрасе meleshko_irina@mail.ru або па тэлефоне (8 029) 588-42-73 (Ірына Мялешка).*

### КАРМЭЛІТЫ БОСЫЯ ЗАПРАШАЮЦЬ НА РЭКАЛЕКЦЫІ

**Гэта будзе час духоўнага аднаўлення ў духу св. Тэрэзы ад Езуса, св. Яна ад Крыжа, св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езус і іншых святых кармэліцкага ордэна.**

**План рэкалекцый да канца 2018 года:**

**24–26 жніўня** – "Малітва як падрыхтоўка да сакраманту пакаяння", *а. Юрый Кулай OCD;*
**24–28 верасня** – "Роля Святога Духа ў духоўным жыцці і служэнні святара" (для святароў), *а. Казімір Мараўскі OCD;*
**14–16 снежня** – "У садзе св. Тэрэзы ад Езуса – шлях духоўнага жыцця", *а. Сяргей Трысцень OCD.*

Упершыню рэкалекцыі пройдуць у новым манаскім доме кармэлітаў у Мядзелі (Мінска-Магілёўская архідыяцэзія).

*Па пытаннях запісу звяртацца па тэлефонах: (8 017) 972-29-00, (8 029) 557-69-12 – а. Генрых Валэйка OCD – або па электронным адрасе: karmelmiadziel@gmail.com.*

### ЛЕТНІЯ РЭКАЛЕКЦЫІ ПРОЙДУЦЬ У РОСІ

**Штомесячна ў рэкалекцыйным цэнтры "Дом міласэрнасці" будуць адбывацца 3-дзённыя духоўныя практыкаванні.**

**29 чэрвеня – 1 ліпеня:** рэкалекцыі для мужчын, *кс. Валерый Лісоўскі.*
**13–15 ліпеня:** "Бо калі вы будзеце дараваць людзям правіны іх..." (Мц 6, 14), *кс. Мікалай Ціхановіч.*
**20–22 ліпеня:** "Калі хто не народзіцца згары, не можа ўбачыць Божага Валадарства" (Ян 3, 3), *кс. кан. Чэслаў Паўлюкевіч.*
**27–29 ліпеня:** "Да ацалення праз прабачэнне", *кс. кан. Юзаф Ганьчыц.*
**10–12 жніўня:** "Не бойся, толькі вер..." (Мк 5, 36), *кс. Юрый Кузьміч.*
**24–26 жніўня:** "Сем смяротных грахоў" (згодна вучэнню Айцоў Касцёла), *кс. Аляксей Раманчук.*

Пачатак рэкалекцый у 18.00. Заканчэнне – у 15.00.

*Для ўдзелу ў духоўных практыкаваннях неабходна абавязковая рэгістрацыя па тэлефоне: (8 029) 886-31-28. Па пытанні запісу просьба тэлефанаваць з панядзелка па пятніцу ў гадзінах: 11.00–12.00, 20.00–21.00.*

## Каляндар падзей

***29 чэрвеня***
*Урачыстасць свсв. апосталаў Пятра і Паўла.*

***1-2 ліпеня***
*Урачыстасці ў Нацыянальным санктуарыі ў Будславе.*

***3 ліпеня***
*Свята св. апостала Тамаша.*

***6–7 ліпеня***
*Урачыстасці ў Дыяцэзіяльным санктуарыі МБ Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Ліпень***

*Каб уся дыяцэзіяльная супольнасць (біскупы, святары, кансэкраваныя асобы і вернікі) была адказная за справу І Дыяцэзіяльнага сінода.*

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Салабуду**

з нагоды Імянін перасылаем букет сардэчных пажаданняў: моцнага здароўя, сілы і трываласці на кожны дзень, непахіснай веры і надзеі, а таксама штодзённага аптымізму і супакою ў сэрцы.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Залогу**

з нагоды Імянін жадаем Божага блаславення, здароўя, радасці, аптымізму, моцнай веры, сілы ў абвяшчэнні Евангелля, а таксама нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Жырмунаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пятру Марцінцу**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем Божага блаславення, усіх дароў Святога Духа на кожны дзень, нястомнай апекі Панны Марыі і святога Заступніка, а таксама моцнага здароўя і добразычлівых людзей побач.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Азёраў*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Лазоўскаму**

з нагоды Імянін жадаем Божага блаславення, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, дароў Святога Духа, усіх неабходных ласкаў ад Хрыста, моцнага здароўя, супакою ў сэрцы, душэўнай раўнавагі, а таксама добразычлівых людзей побач.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам са Струбніцы*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму**

з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя віншаванні, спалучаныя з малітвай: Божага блаславення, дароў Святога Духа, радасці, моцнага здароўя. Няхай святы Заступнік і Маці Божая атуляюць Вас апекай. За дабро, плён працы, разважлівасць, чулае сэрца і лагодную ўсмешку, клопат аб святыні і парафіянах, прыклад веры і набожнасці мы вельмі ўдзячныя Вам.

*Парафіяне з Варнянаў і вернікі з капліцы ў Вароне*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Каўшуку**

з нагоды пачатку святарскага жыцця ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, добрых і верных людзей побач, моцнай веры, нязгаснай надзеі. Няхай міласэрны Бог блаславяе кожны дзень Твайго жыцця, Маці Божая атуляе плашчом сваёй апекі, а Святы Дух асвячае выбраны шлях, каб ён прыносіў шчодры плён.

*Вернікі з парафіі Найсвяцейшай Тройцы і св. Францішка з Асізі ў Свіслачы*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, стойкасці, аптымізму, а таксама нязгаснага запалу веры, надзеі і любові.

*Вернікі з парафіі Доцішкі*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Яну Рэйшалю**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя віншаванні. Няхай Ваша сэрца заўсёды будзе напоўнена Божай радасцю, святлом, ласкай. Няхай добры Бог адорвае блаславеннем, Езус Хрыстус ахоўвае ад бед, а Маці Божая, святы Заступнік і Анёл-ахоўнік нястомна трымаюць Вас у сваёй апецы. Няхай паслуга будзе напоўнена моцай і дарамі Святога Духа, а здароўе і цярплівасць ніколі не пакідаюць. Заўсёды памятаем пра Вас у сваіх малітвах!

*Вернікі з вёсак Мештуны, Скярсі і Вялікае Сяло, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Жалудка, а таксама сям'я Шчэтко*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Рушніцкаму**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, сіл у рэалізацыі Божых планаў, нястомнай апекі святога Заступніка і зычлівых людзей на святарскім шляху. Шчыра дзякуем Вам за час, які нам прысвячаеце, за адданую службу ў парафіі, абвяшчэнне Божага слова, цудоўны прыклад веры і мудрасці, адкрытае сэрца і нястомны клопат пра кожнага з нас.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Каробчыцаў*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Калесніку**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца перасылаем пажаданні: моцнага здароўя, сіл, душэўнага супакою, моцы і цярплівасці на святарскім шляху, радасці, а таксама людской дабрыні і любові.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Жодзішкаў, вернікі з в. Андрэеўцы, а таксама сям'я Гагарка з дзецьмі, в. Навасёлкі*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Астукевічу**

з нагоды Імянін і 18-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем букет сардэчных пажаданняў: Божых ласкаў, дароў Святога Духа на доўгія гады святарскай паслугі, нястомнай дапамогі святога Заступніка, Божай міласэрнасці, поспехаў, здароўя, душэўнага супакою і радасці на кожны дзень.

*Парафіяне, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Індуры, вернікі з Ваўкавыска*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Сарэлу**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: Божага блаславення, дароў Святога Духа, апекі Беззаганнай Маці і святога Заступніка, моцнага здароўя, добрага настрою і душэўнага супакою. Шчасці Божа!

*Люцыя Лабдзкая і Станіслава Сідаровіч, а таксама Ружанцовае кола св. Юзафа з парафіі Воўпа*

**Паважаным Ксяндзам Яну Сарэлу і Яну Рэйшалю**

з нагоды Імянін перасылаем шчырыя пажаданні: здароўя, сапраўднай радасці і светлай надзеі, шчырых і сумленных людзей на жыццёвым шляху, міласэрнасці, поспехаў, нязгаснага душэўнага цяпла ў складаным святарскім служэнні.

*Генрых Дзямешчык, Мар'я Вішнеўская з сям'ёй, Воўпа*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Этэлю**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Усемагутны ўзнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай, стойкасцю і нязгасным запалам, Панна Марыя заўсёды атуляе мацярынскім плашчом, а святы Ян Хрысціцель спадарожнічае ва ўсіх справах. Дзякуем за добрае сэрца, зычлівасць, малітвы і цярплівасць да нас. Няхай міласэрны Бог блаславіць Вашых бацькоў!

*Легіён Марыі, малітоўная група Добрага Пастыра, апостальства "Маргарытка", члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам, касцёльны камітэт і ўдзячныя вернікі з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Пятру Кубелю**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін складаем букет шчырых пажаданняў. Няхай добры Бог памнажае Вашу веру, дае шмат сіл і здароўя, Святы Дух шчодра адорвае мудрасцю, Маці Божая ахінае сваёй апекай і любоўю, а святы Пётр заўсёды спадарожнічае ва ўсіх жыццёвых справах. Жадаем таксама зычлівасці ад кожнага чалавека, якога сустракаеце на сваім шляху. Дзякуем за добрае сэрца і цудоўны прыклад веры.

*З малітвай, Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і парафіяне з Крупава і капліцы ў Валдацішках*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Шанчуку**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай усё Ваша жыццё будзе напоўнена святлом і любоўю, Збаўца вядзе па цудоўнай дарозе святарства, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі. Шчасці Божа!

*Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Гожы*

**Паважаны Ксёндз Ян Гавецкі!**

З нагоды Імянін прагнем скласці найлепшыя пажаданні.

Няхай настрой вясёлы
Будзе ў Вас не толькі
ў гэты дзень,
У дзень Вашага Анёла,
Які аберагае і вядзе.
Справы Вашыя,
даручаныя Богам,
Няхай множацца няспынна
пры кожным дні.
Разам мы акажам дапамогу,
Нам ж не цяжка
працаваць, ані!

*Апостальства "Маргарытка", Легіён Марыі і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Яновічу**

з нагоды Дня нараджэння жадаем шчодрых Божых ласкаў, блаславлення і толькі радасных хвілін. Няхай Хрыстос будзе Вам Правадніком, Святы Дух нястомна ўдзяляе свае дары, а Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды Вамі апекуецца. Дзякуем за прыклад набожнасці, а таксама за тое, што Вы з намі.

*Апостальства "Маргарытка" і Легіён Марыі з парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння жадаем апекі Найсвяцейшай Маці, усіх дароў Святога Духа, шмат сіл і здароўя ў рэалізацыі Божых планаў, зычлівых людзей побач. Дзякуем за добрае сэрца, мудрыя парады і час, які ахвяруеце для нас.

*Вернікі з Гродна-Аўгустоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Чургану**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем шчырыя пажаданні: здароўя, сапраўднай радасці і светлай надзеі, шчырых і сумленных людзей на жыццёвым шляху, міласэрнасці і велікадушнасці, поспехаў і нязгаснага душэўнага цяпла ў святарскім служэнні.

*Ружанцовае кола МБ Чанстахоўскай, Юрацішкі*

**Паважанаму Айцу Паўлу Раманчуку**

з нагоды Імянін жадаем шмат здароўя, сіл, стойкасці, зычлівых людзей побач, усіх ласкаў ад Пана і моцнай нязгаснай веры. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божай любоўю, а паслуга прыносіць радасць і шчодры плён.

*Рыцарства Беззаганнай, Адарацыйнае кола і вернікі з парафіі МБ Анёльскай у Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю**

з нагоды Імянін жадаем здароўя, шчасця, ажыццяўлення мар, Божых ласкаў і шмат радасных момантаў. Няхай Святы Дух асвеціць кожны дзень святарскага служэння, Езус будзе Вашым Сябрам, а Марыя з любоўю прытуляе да сэрца.

*Вернікі з парафіі Галынка*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Паўлюкевічу**

з нагоды Імянін і 10-годдзя святарскіх пасвячэнняў жадаем Хрыстовай любові, Божага блаславлення, плёну ў душпастырскай працы. Няхай святы Заступнік засцерагае ад няшчасцяў і дапамагае ў кожную хвіліну жыцця, Маці Божая нястомна трымае ў сваёй апецы, а дабрыня і зычлівасць, якую Вы дорыце людзям, заўсёды да Вас вяртаецца. Будзьце і надалей для нас прыкладам моцнай веры і набожнасці.

*З удзячнасцю і малітвай, парафіяне з касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Граўжышках*

**Паважанаму Ксяндзу Пятру Вішнеўскаму**

з нагоды Імянін і 13-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем здароўя, радасці, стойкасці, шчасця, шмат Божых ласкаў, апекі Панны Марыі і святога Заступніка. Няхай Святы Дух удзяляе свае дары, а Анёл-ахоўнік сярод белых руж пляце Вам вянок!

*Вернікі з парафіі Шылавічы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін жадаем здароўя, душэўнага супакою, радасці і шчодрага плёну ва ўсіх справах. Няхай кожны дзень будзе багаты верай, надзеяй і любоўю, якімі Вы так шчодра дзеліцеся з вернікамі! Няхай добры Бог стала Вас блаславяе, Панна Марыя выпрошвае ў свайго Сына неабходныя для Вас ласкі, а святы Заступнік заўсёды будзе побач. Дзякуем Вам за ахвярную працу на карысць Богу і людзям, клопат пра парафіян, добрыя словы і ўчынкі.

*Касцёльны камітэт, парафіяне, моладзь, апостальства "Маргарытка" і малітоўная група МБ Кангрэгацкай з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін складаем сардэчныя пажаданні: доўгіх гадоў жыцця, напоўненых шчасцем, радасцю, душэўным супакоем і людской зычлівасцю. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя мае Вас у сваёй апецы, а святы Заступнік нястомна выпрошвае ў Бога патрэбныя дары і дапамагае ў плённай паслузе.

*З павагай і ўдзячнасцю, парафіянкі з гродзенскай катэдры*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Раманоўскаму**

з нагоды Імянін жадаем добрага здароўя, апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка, Божага блаславлення ва ўсіх справах, шчодрых дароў Святога Духа. Мы ўдзячны Пану Богу за дар Вашага паклікання, а Вашым бацькам – за тое, што выхавалі сына ў хрысціянскай веры. Няхай нашы малітвы будуць для Вас духоўнай падтрымкай.

*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і парафіяне з Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Раманоўскаму**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, доўгага і поўнага радасці жыцця, бясконцых сіл. Няхай Вас заўсёды ахінаюць промні Божай міласэрнасці, Святы Дух адорвае шчодрымі ласкамі, Найсвяцейшая Маці нястомна Вамі апекуецца, Пан Езус валадарыць у сэрцы, а святы Заступнік заўсёды будзе побач.

*Ружанцовыя колы і вернікі з Радуні*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Радзюку і Паўлу Урбану**

з нагоды Імянін жадаем добрага здароўя, радасных дзён, шмат сіл у пераадоленні цяжкасцей, моцнай веры, нязгаснай надзеі і сапраўднай Божай любові. Заўсёды будзьце акружаныя промнямі міласэрнасці Езуса, моцай Святога Духа і апекай Найсвяцейшай Панны Марыі і святых Заступнікаў.

*З павагай і малітвай, вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Савіцкаму**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін ад усяго сэрца жадаем здароўя, радасці, сіл і стойкасці, людской зычлівасці, апекі Бога і святога Заступніка, а таксама радасці на кожны дзень. Няхай Пан адорвае Вас сваімі ласкамі!

*Ружанцовае кола з в. Вінцукі*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Беланосу**

з нагоды Імянін і 19-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай сэрца штодня поўніцца радасцю ад выконваемай душпастырскай паслугі, здароўе не падводзіць, побач будуць добрыя і зычлівыя людзі, а Найсвяцейшая Маці і святы Заступнік нястомна Вамі апекуюцца.

*Удзячныя парафіяне і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Макараўцаў*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Мазану**

з нагоды святарскіх пасвячэнняў і Імянін складаем сардэчныя пажаданні. Няхай зерне, засеянае Вамі на Божай ніве, прыносіць шчодры плён. Жадаем моцнага здароўя, сіл для абвяшчэння Божага слова, радасці і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай Усемагутны, які паклікаў Вас да святарскага служэння, дапамагае ў рэалізацыі паслугі, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі ласкамі.

*Удзячныя вернікі з Макараўцаў*

**Паважаным Ксяндзам Паўлу Шанчуку і Паўлу Урбану**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай: Божага блаславлення, моцнага здароўя, шчасця, душэўнага супакою, цярплівасці і аптымізму. Прыклад Вашай веры, міласэрнасці і шчырай службы Богу з'яўляецца ўзорам для кожнага верніка. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом, Найсвяцейшая Маці і святы Заступнік нястомна апекуюцца, а Анёл-ахоўнік чувае над Вамі і засцерагае ад усякага зла.

*Вернікі з парафіі Найсвяцейшай МБ Шкаплернай, Прывалка*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Пузыну, Яну Варанецкаму і Паўлу Эйсманту**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні. Няхай радасць працінае Ваша жыццё, асвячае кожны дзень і заспакойвае надзённыя клопаты. Няхай святы Заступнік і Маці Божая ахінаюць сваёй апекай. Дзякуем за тое, што Вы з намі і для нас.

*Вернікі з касцёла св. Міхала Арханёла ў Ашмянах*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Барысевічу**

з нагоды Імянін жадаем сіл, цярплівасці і стойкасці ў святарскай паслузе. Будзьце сапраўднай зброяй у руках Хрыста, навяртайце людзей да Бога, а сваім жыццём давайце сведчанне Яго любові і штодзённай прысутнасці. Усіх Божых ласкаў, дароў Святога Духа і апекі Панны Марыі. Няхай святы Заступнік будзе Вам падтрымкай і прыкладам для нас.

*З малітвай, вернікі з Навальні*

**Паважаны Ксёндз Андрэй Кеўлюк!**

З нагоды 10-годдзя святарскіх пасвячэнняў шчыра жадаем Вам Божага блаславлення, дароў Святога Духа, няспыннай апекі Панны Марыі, здароўя, радасці, цярплівасці, душэўнага супакою, людской зычлівасці і сіл для нялёгкай службы на карысць Богу і людзям.

*З малітвай, вернікі з парафіі Божага Цела, Крамяніца*

**Паважаным Ксяндзам Паўлу Безляповічу і Паўлу Скубу**

з нагоды Імянін жадаем мноства Божых ласкаў, стойкасці, моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці і запалу для абвяшчэння Божага слова. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, дапамагае пераадольваць усе цяжкасці, а Божае слова, што засяваеце ў нашых сэрцах, выдасць стакротны плён.

*З малітвай, апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Здзіславу Пікулу, Алегу Жураўскаму і Казіміру Мураву**

з нагоды чарговай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Панна Марыя ахінае Вас цеплынёй свайго сэрца, Святы Дух шчодра адорвае ласкамі, Усемагутны нястомна чувае над Вамі, а святарская паслуга прыносіць радасць і шчодры плён.

*З удзячнасцю, парафіяне*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.** Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 3219; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная